© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 23 (59) 7-13 чэрвеня 1996 года

Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

Расклад руху пасажырскіх цягнікоў па ст. Маладзечна – 2-я стар.

## Падзея тыдня

"Беларусь– Польшча– Украіна: бяспечны рэгіён у бяспечнай Еўропе"–тэма канферэнцыі, арганізаванай еўраатлантычнай асацыяцыяй 24-26 мая ў Варшаве. Мэта яе– дасягненне стабільнасці ў рэгіёне. Польшча і Украіна выступілі з канцэпцыяй: НАТА– фактар стабілізацыі ў Еўропе. Прадстаўнікі кіраўніцтва Беларусі наадварот выказалі цвёрдае "Не" пашырэнню гэтай арганізацыі на Усход. Натуральна, суседзяў цікавіў і стан працэсаў дэмакратызацыі ў нашай дзяржаве. А тут "поспехі" нашы несумненныя і закранаюць іх непасрэдна.

Так, Мінскі гарадскі суд выклікаў лідэра польскага прафсаюза "Салідарнасць" М. Кшаклеўскага на паседжанне, якое будзе разглядаць абвінавачванне яго ў арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу. (Кшаклеўскі сустракаўся на стадыёне з рабочымі мінскіх заводаў. Улады вызначылі гэта як мітынг).

Пачатак жа пагаршэння адносінаў з суседзямі быў пакладзены 26 красавіка затрыманнем украінскіх грамадзян– удзельнікаў "Чарнобыльскага шляху" у Мінску. На мінулым тыдні ў сталіцы нашай дзяржавы пабываў намеснік міністра замежных спраў Украіны Грышчанка, які вырашаў пытанні аказання дапамогі затрыманым грамадзянам сваёй краіны. Па вяртанню ў Кіеў ён заявіў, што адносіны Беларусі і Украіны могуць пагоршыцца.

Пратэст супраць затрымання грамадзян сваёй краіны выразілі больш як пяцьдзесят украінскіх парламентарыяў. Не засталася па-за ўвагай гэтая падзея і ў нас. 30 мая быў арганізаваны пікет каля рэзідэнцыі прэзідэнта ў Мінску ў знак пратэсту супраць утрымання ўкраінскіх грамадзян, які зноў выліўся ў супрацьстаянне народа і ўлады.

Сведкамі гэтай падзеі былі дэпутаты нашага парламента Гразнова, Данейка, Хрол. Што, магчыма, адыграла сваю ролю ў абмеркаванні яе на сесіі Вярхоўнага Савета: было прынята рашэнне стварыць камісію па факту падзей 30 мая. Парламент, які доўга займаў пазіцыю назіральніка, скарыстаў адсутнасць прэзідэнта і зрабіў спробу ўмацаваць свае пазіцыі ў дзяржаўнай палітыцы.

І тут жа Старшыня Вярхоўнага Савета, імкнучыся змякчыць становішча, выступіў з заклікамі да выканаўчай улады, грамадскіх арганізацый аб пошуках агульных шляхоў выйсця з крызісу. Ці будзе толькі вынік?

А пакуль можна сказаць, што такая палітыка вядзе да ізаляцыі нашай дзяржавы з боку суседзяў і зліццю з Расіяй.

*Аляксандр УЛАДЗІН.*

## Адным абзацам

❑Прэзідэнт Беларусі даручыў ураду і Нацыянальнаму Банку да канца ліпеня ўвайсці ў графік своечасовай выплаты зарплаты, захаваць фінансаванне сацыяльных праграм і ўвесці персанальную адказнасць кіраўнікоў усіх узроўняў за няўплату падаткаў гаспадарчых суб'ектаў.

❑ Працягам палітыкі, накіраванай на манапалізацыю эканомікі і стварэнне карумпавана-эканамічнага ладу, сталі апошнія ўказы прэзідэнта па рэгуляванню банкаўскай дзейнасці і ўпарадкаванню дзейнасці суб'ектаў гаспадарання. У чарговы раз улада спрабуе падтрымаць агонію дзяржаўнага сектара эканомікі, не раз даказаўшага сваю неэфектыўнасць. Самастойны бізнес з эканомікі ўсяляк выцясняецца.

❑За студзень-жнівень 1996 г. рост спажывецкіх цэн абагнаў рост сярэдняй заработнай платы на 7 працэнтаў. Па папярэдніх ацэнках, у маі стан яшчэ пагоршыўся.

❑ Беларускімі праекціроўшчыкамі завершана работа над генеральным планам развіцця горада Мінска. Да 2010 года, згодна з праектам, колькасць насельніцтва сталіцы дасягне 1,9 мільёна жыхароў, тэрыторыя горада пашырыцца ў 1,7 раза за кошт адчужэння земляў раёна, завершыцца рэканструкцыя чыгуначнага вакзальнага комплексу, будуць пабудаваны два новыя аўтавакзалы– Цэнтральны і Заходні. Сярэдняя забяспечанасць жыллём на аднаго чалавека будзе роўная прыкладна 25 квадратным метрам агульнай плошчы.

❑ Добрая навіна для працаўнікоў "чаўночнага" бізнесу– побач з рэчавым рынкам у Ждановічах пачынае дзейнічаць новы прыпыначны пункт электрычкі на маладзечанскім накірунку "Лебяжы", што дазволіць значна разгрузіць аўтатранспарт і спрасціць пакупнікам і прадаўцам праезд да месцаў гандлю. Арганізацыям, зацікаўленым у развіцці рынку, будаўніцтва прыпынку абышлося ў суму звыш за мільярд рублёў.

❑Падпісаннем пагаднення аб стварэнні сумеснай кампаніі па выпуску аўтамабіляў "Форд" завяршылася працяглая напружаная работа па прыцягненню замежных інвестыцый, у якой удзельнічалі беларускія фірмы, кіраўніцтва і прэзідэнт краіны. Праект коштам 20 мільёнаў долараў– першы на беларускім рынку. Яшчэ некалькі буйных гэткіх жа праектаў будуць падпісаны ў бліжэйшыя гады.

❑На рынку наяўнай валюты працягваецца "беспредел" курсу долара: у абменных пунктах ён трымаецца ў межах валютнага калідора ў 13100, на "чорным" рынку дасягнуў 15-16 тысяч рублёў: менавіта туды і перамясціліся аперацыі куплі-продажу валюты. Рынак– у чаканні чарговых Указаў, "калідораў", і, канешне ж, вынікаў выбараў у Расіі.

❑ У Расіі, наадварот, цікавасць да амерыканскай валюты падае. Цэнтрабанк РФ абвясціў аб канверсуемасці рубля і абазначыў межы змянення афіцыйнага курсу долара ЗША да расійскага рубля да 31 снежня на ўзроўні 5000-6100.

❑З днём работнікаў лёгкай прамысловасці, аблытанай цяжкімі праблемамі, віншуем працаўнікоў гэтай галіны рэгіёна.

## Тэма тыдня

# "Протопи ты мне баньку..."

*МАЛАДЗЕЧНА. Цёплыя дні гараджанамі чакаліся на фоне пастаянных пагалосак аб адключэнні гарачай вады. Лета надышло, вады няма. Будзе?*

Э. Віткоўскі, генеральны дырэктар ВА "Камунальнік":

- Майскае адключэнне гарачай вады для маладзечанцаў нечаканасцю не стала: традыцыйная апрасоўка цепласетак. Выпрабаванні паказалі на шэраг пашкоджанняў, чаму ў немалой ступені спрыяла надзвычай халодная зіма, а таксама салідны ўзрост большасці гарадскіх камунікацый. Шмат пашкоджанняў выяўлена ў зоне работы другой кацельні (вул. Скарыны, Будаўнікоў, Міру, Касманаўтаў, Хмяльніцкага і інш.). Рамонт распачаты і будзе скончаны ў розныя тэрміны. На спраўных магістралях у цяперашні час ваду ўключаем.

Л. Кузняцоў, намеснік дырэктара электрасетак:

- Па магістралях пытанняў няма, пашкоджанні нязначныя. Да 31 мая мы, што патрабуецца, выканалі. У цяперашні час у трубах ёсць вада, яна абарочваецца пад ціскам. Аднак кацёл не распалены, бо "Камунальнік" завінаваціўся за цяпло і электраэнергію каля 11 мільярдаў рублёў і з Мінска паступіла ўказанне гарачую ваду не падаваць. Лічбы далі ў энерганаглядзе.

Я. Цэльчык, намеснік старшыні гарвыканкома:

- Ёсць пытанні з тэхнічным станам камунікацый, ёсць і шматмільярдная запазычанасць прадпрыемстваў ды грамадзянаў "Камунальніку". Але сацыяльна значымыя аб'екты, частку жылля падключаем да гарачага водазабеспячэння ў бліжэйшы час. Пра магчымасці выплаты запазычанасці можаце меркаваць самі, а тэрміны заканчэння рамонту на розных участках гарадскіх магістраляў могуць вагацца, умоўна кажучы, ад аднаго дня да трох месяцаў.

Пры некаторых разыходжаннях у меркаваннях адказных работнікаў выснова адна: гарачая вада летам у Маладзечне будзе. А вось суседняя Вілейка трэці год запар цёплыя дні сустракае рашучым адключэннем гэтага дасягнення цывілізацыі.

*Аддзел інфармацыі.*

## Навіны рэгіёна

### Ражка вам не хапае?

*МАЛАДЗЕЧНА. Пры выпечцы па новай тэхналогіі, з цэльнамолатага збожжа, у хлебе захоўваюцца ўсе пажыўныя якасці, комплекс вітамінаў. Яшчэ на мясцовым хлебазаводзе асвойваецца выпуск ражка "Бадзёрасць", у састаў якога ўваходзяць зародкавыя шматкі пшаніцы, надзвычай карысныя для здароўя чалавека.*

Нягледзячы на канкурэнцыю, несвоечасовыя разлікі гандлюючых арганізацый і многія іншыя цяжкасці, хлебапёкі ўвесь час ў пошуку: хлеб "Мінскі", "Духмяны", батон з разынкамі, вітушка мінская, пляцёнка з макам– гэта толькі некаторыя гатункі хлеба-булачных вырабаў, асвоеныя ў апошні час.

–Раней мы арыентаваліся на больш танную прадукцыю,– гаворыць намеснік дырэктара па якасці Ганна Грышкевіч.– А цяпер адчулі, што пакупнік гатовы плаціць і даражэй за якасны, смачны хлеб.

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

### Вішнеўцы будуюць капліцу

*СМАРГОНСКІ Р-Н. Амаль усе вернікі Вішнева– католікі. Ёсць, натуральна, тут і касцёл.*

Але міграцыйныя працэсы, у тым ліку і з прычыны аварыі на ЧАЭС, прывялі да з'яўлення ў вёсцы больш за 100 праваслаўных. Па ініцыятыве мясцовага ляснічага Мікалая Картавіка з'явілася заява да ўладаў з просьбай аб будаўніцтве царквы.

Выдзелена месца, распрацавана праектна-каштарысная дакументацыя. На ахвяраванні вернікаў будзе ўзводзіцца каплічка.

*Тэрэза КУМІШЧА.*

### Выратавальная пятля на шыі

*ВІЛЕЙКА Вагон з цэментам стаяў пад разгрузкай на тэрыторыі МПМК-186. Васемнаццацігадовы рабочы саўгаса "Беларускі" Канстанцін Першын паслізнуўся і апынуўся ўнутры жалезнай ёмістасці.*

Цэмент, быццам дрыгва, зацягнуў хлопца. Хутка на паверхні засталася толькі галава, тоны парашку пагражалі і яе накрыць.

Праз трыццаць секунд пасля паведамлення пажарныя ехалі на дапамогу. Сяргей Мацюшонак, камандзір аддзялення спусціўся ў вагон па вяроўцы. Хістаючыся, неяк зачапіў выратавальнай вяроўкай амаль бездыханнае цела.

"На зямлі" няўдачніка перадалі ўрачам, якія не адразу, але прывялі яго ў прытомнасць. Канстанцін Першын атрымаў атручэнне цэментным пылам і апёкі першай ступені.

*Алена АЛЬФЕР, інспектар па пажарнаму нагляду.*

### Пажары

МАЛАДЗЕЧНА. У тры ночы загарэлася кватэра ў шматпавярховым доме па вуліцы Віленскай. Беспрацоўная васемнаццацігадовая гаспадыня запаліла, магчыма, паперу,– ёй было цёмна, а электраэнергію адключылі за нявыплату. Пажарныя спрацавалі аператыўна– сапсавана толькі маёмасць.

ВІЛЕЙСКІ Р-Н. Вартаўнік калгаса "Абадоўцы" Мар'ян Лукша ў вёсцы Дварэц парушыў правілы пажарнай бяспекі пры эксплуатацыі газа-балонных установак. Ад дома засталося папялішча. Гаспадар у рэанімацыі памёр.

*Аддзел інфармацыі.*

**Рэдакцыя "Рэгіянальнай газеты" віншуе сваіх калег– супрацоўнікаў газеты "Астравецкая праўда" з пяцідзесяціпяцігоддзем выдання. Жадаем лёгкага пяра, творчага ўзлёту, шчасця!**

### Фестываль і тэлебачанне

*Канцэрты "Маладзечна-96" рэспубліка ўбачыць дзякуючы тэхнічным службам дзяржаўнага прадпрыемства "Міжнародныя сувязі" і Беларускага радыётэлевізійнага цэнтра.*

Здымку канцэртаў плануецца праводзіць перасоўнай тэлевізійнай станцыяй "Магнолія-47" (начальнік змены У. Багун), якая працавала на двух папярэдніх фестывалях. Дарэчы, гэтая ПТС– лепшая ў краіне. Выкарыстоўваецца яна, да прыкладу, пры трансляцыі міжнародных футбольных матчаў, суправаджае ў паездках прэзідэнта.

А далей з дапамогай перасоўных (кіраўнік Г. Чарнецкі) і стацыянарных радыёрэлейных станцый Пруды (інжынер А. Блесіс) і Радашковічы (вядучы інжынер У. Гурман), адлюстраванне будзе распаўсюджана на сетку Беларускага тэлебачання. Тэхнічнае забеспячэнне ажыццяўляе аварыйна-прафілактычная група №2 (вядучы інжынер М. Ліннік) і лінейна-тэхнічны цэх раённага вузла электрасувязі.

*Аддзел інфармацыі.*

### Свае "знічкі"

*ВАЛОЖЫН. У першым раённым фестывалі маладых выканаўцаў эстраднай песні "Травень-96" прынялі ўдзел 32 самадзейныя спевакі ва ўзросце ад 15 да 30 гадоў. На суд журы і гледачоў кожны з іх вынес па дзве рознахарактарныя песні.*

Дыпломамі першай ступені адзначаны салісткі Івянецкага і Валожынскага ДК дзевяцікласніцы Алена Бібік і Марына Станкевіч, медработнік, салістка Пральніцкага сельскага Дома культуры Людміла Лейкіна і настаўніца Сівіцкай базавай школы Хрысціна Лямбовіч.

На небасхіле Валожыншчыны ўспыхнулі новыя "знічкі". Некаторыя лаўрэаты сталі адкрыццём нават для спецыялістаў, якія ўваходзілі ў журы.

Фестываль абяцае стаць традыцыйным.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

*Постоянно в продаже:*

Термобумага для факсов,
Лента чековая для кассовых аппаратов (37.5 мм - 76 мм),
Лента для принтеров (210, 310, 420 мм),
Бумага для ксероксов,
Бумага писчая (ф-т А4 и А3),
Бумага Copy-X (Швеция),
Калькуляторы Citizen любых моделей,
Картриджи для принтеров Epson,
Красящая лента для любых моделей принтеров,
Дискеты Basf (3.5" и 5.25"),
Электронные записные книжки Citizen,
Телефоны Fetap

ЕВРОКОНТАКТ

Eurocontact

ЕВРОКОНТАКТ LTD

Тел. в г.Молодечно: 7-31-30

EUROCONTACT

*Оказываем услуги:*

Разработка оригинал-макетов, изготовление визиток, фирменных бланков, пригласительных билетов и другой полиграфической продукции.
Набор и оформление текстов на различных языках.
Бланки бухгалтерской отчетности, банковские и кассовые документы.
Услуги ксерокопирования.
Умеренные цены, короткие сроки.
Любая форма оплаты.

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



# Могілкі– святое месца

*ВАЛОЖЫН. У майскія дні на старыя яўрэйскія могілкі ў райцэнтры высадзіўся дэсант навучэнцаў каледжа яўрэйскіх ведаў Сусветнай яўрэйскай арганізацыі "Эш-ха Тора" (Агонь Торы), штаб-кватэра якой знаходзіцца ў Мінску. Гэта навучальная ўстанова пачала дзейнічаць у сакавіку бягучага года, у ёй навучаюцца толькі юнакі з 16 да 30-гадовага ўзросту з розных гарадоў Беларусі.*

Адна з праграм навучальнай установы– упарадкаванне месцаў пахавання продкаў. Што і прывяло 35 чалавек яўрэйскай моладзі разам з выкладчыкам з ЗША Ар'е Капланам у Валожын, дзе яны аднавілі шэраг разбураных часам і, на жаль, мясцовымі свавольнікамі, помнікаў. Праз тыдзень рэлігійная моладзь працавала на могілках у пасёлку Ракаў, а затым– у Рубяжэвічах суседняга Стаўбцоўскага раёна.

За апошнія гады выкананы значны аб'ём работ па ўпарадкаванню старых могілак у нашым горадзе. Адноўлена агароджа, уваходныя брамы. Трэба сказаць, што большасць жыхароў горада з хрысціянскай ці проста грамадзянскай павагай ставіцца да месца пахавання. Аднак ёсць і такія, хто наўмысна, з хуліганскіх мэтаў засмечваюць, разбураюць старыя могілкі, ператвараюць іх у пашу для хатняй жывёлы і птушак.

Для даведкі: яўрэйская суполка склалася ў Валожыне ў першай палове XVIII стагоддзя. У пачатку 1890-х гадоў тут пражывалі 1900 яўрэяў пры агульнай колькасці жыхароў– 2446, дзейнічалі 4 сінагогі. На могілках пахаваны стваральнікі і выкладчыкі Валожынскай іешывы (ешыботу), вядомай ва ўсім свеце.

***Сямён ШТЭЙНЕР.***

# Памідоры на касцях

*АШМЯНЫ. У заходнім мікрараёне побач з жылымі дамамі старыя яўрэйскія могілкі. Не агароджаныя, са зламанымі помнікамі. Родныя нябожчыкаў таксама ў зямлі. Тое, што засталося ад могілкаў, ніхто не даглядае.*

Людзі "кемлівыя" выкарыстоўваюць могілкі па-свойму. Зрабілі цяпліцы пад агуркі і памідоры ў трох метрах ад трэснутых помнікаў. Укапалі прылады для выбівання дываноў. Дзеці гуляюць у футбол, паставіўшы замест варот апошнюю памяць аб загінуўшых і памерлых. Там жа каровы, коні– лепшага выпасу не знайсці. Застаецца толькі пад летнім сонейкам рассцяліць коўдру ды легчы адпачыць паміж ледзь бачных узгоркаў.

***Валянціна ДРАЗДОВА.***

# Труфальдзіна з дыпломам выкладчыка

*МАЛАДЗЕЧНА. Юрый Б. па дыплому выкладчык фізікі і інфарматыкі. Але працаваць сейбітам добрага, вечнага не стаў. Уладкаваўся на вытворчасць.*

Сёння ён служыць адразу тром гаспадарам– працуе інжынерам- праграмістам у філіяле АКБ "Брэсткамбанк", на заводах парашковай металургіі і металавырабаў. І ўкладваецца ў восем гадзін–рабочы дзень ітээраўца.

***Аддзел інфармацыі.***

# Лечым па-новаму

*МАЛАДЗЕЧНА. Па кватэрах дамоў вуліцы імя Л. Талстога хадзіў малады чалавек і прапанаваў запоўніць анкеты. З сумкай праз плячо скакаў з паверха на паверх. Хто ён і адкуль, жыхары так і не зразумелі.*

Першая частка анкеты– пашпартныя дадзеныя. Другая– аб стане здароўя: чым хварэеце, на што скардзіцеся, ці маеце лішнюю вагу, як харчуецеся, ці згодны лячыцца ў экстрасенса? І ў самым канцы– калі знаходзіцеся дома?

Незнаёмец бачыў абстаноўку кватэр, мае ўяўленне, хто як жыве, і ведае дакладны час адсутнасці гаспадароў. Жыхары спалохаліся і забілі трывогу: прыйдуць красці.

Галоўны ўрач ГТМА К. Клыга запэўніў, што мясцовыя медыкі ніякага дачынення да анкет не маюць.

А ў ГРАУС не здзівіліся: новы час– новыя формы лячэння вашых кватэр ад маёмасці.

***Аддзел інфармацыі.***

# Расклад руху пасажырскіх цягнікоў

## па ст. Маладзечна з 2 чэрвеня 1996 года

| № цягн. | Накірунак | Адпр. з пачатк. ст. | Па ст. Маладзечна прыб. | Па ст. Маладзечна адпр. | Прыб. на канчатк. ст. | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 683 | Віцебск-Гродна | 18-12 | **1-01** | **1-06** | 6-55 | цотныя |
| 281 | Унеча -Гродна | 12-50 | **1-01** | **1-06** | 6-55 | няцотныя |
| 29 | Масква-Калінінград | 13-37 | **1-24** | **1-27** | 11-28 | штодз. |
| 150 | Калінінград-Масква | | 15-10 | **1-36** | **1-40** | 16-07 па 17.09 штодз. |
| 287 | Гомель-Рыга | 18-12 | **1-34** | **2-00** | 12-50 | цотн. |
| 649 | Гомель-Гродна | 18-38 | **2-03** | **2-08** | 9-29 | няцотн. |
| 57 | С.-Пецярбург-Варшава | 12-30 | **3-00** | **3-20** | 8-16* | штодз. |
| 286 | Калінінград-Гомель | 17-40 | **4-03** | **4-08** | 11-45 | цотн. |
| 212 | Калінінград-Харкаў | | 17-45 | **4-03** | **4-08** | 4-10 цотн. |
| 77 | Масква-Гродна | 16-42 | **4-20** | **4-27** | 9-57 | штодз. |
| 5 | Масква-Каўнас | 17-17 | **4-40** | **4-44** | 7-56** | штодз. |
| 525 | Чалябінск-Калінінград | 18-30 | **5-06** | **5-10** | 15-48 | па вызн. днях |
| 288 | Рыга -Гомель | 19-00 | **5-32** | **6-01** | 13-13 | няцотн. |
| 676 | Полацк-Мінск | 1-30 | **6-19** | **6-44** | 8-55 | штодз. |
| 36 | Беласток-Масква | 0-50* | **6-10** | **6-15** | 20-39 | акрамя пндз. |
| 87 | Масква-Вільнюс | 19-03 | **6-31** | **6-34** | 9-40 | няцотн. |
| 149 | Масква-Калінінград | 19-17 | **6-54** | **6-57** | 17-24 | па 18.09 штодз. |
| 258 | Львоў-Рыга | 18-50 | **11-34** | **11-49** | 23-00 | чцв.,птн.,ндз.,пндз. |
| 58 | Варшава-С.-Пецярбург | 11-47* | **16-42** | **16-57** | 9-27 | штодз. |
| 526 | Калінінград-Чалябінск | 7-05 | **17-10** | **17-14** | 6-50 | па вызн. днях |
| 675 | Мінск-Полацк | 17-08 | **18-42** | **19-08** | 0-10 | штодз. |
| 6 | Каўнас-Масква | 14-11(Каўнас) 16-17** | **19-28** | **19-32** | 9-27 | штодз. |
| 30 | Калінінград-Масква | 9-30 | **19-41** | **19-45** | 10-00 | штодз. |
| 78 | Гродна-Масква | 15-09 | **20-56** | **21-03** | 11-15 | штодз. |
| 257 | Рыга-Львоў | 10-15 | **21-23** | **21-36** | 14-59 | аўт., серада, пятн., суб. |
| 88 | Вільнюс -Масква | 18-38 | **21-39** | **21-43** | 11-46 | няцот. |
| 285 | Гомель-Калінінград | 14-33 | **22-03** | **22-07** | 8-39 | цотн. |
| 211 | Харкаў-Калінінград | 22-57 | **22-03** | **22-07** | 8-33 | няцотн. |
| 684 | Гродна-Віцебск | 16-14 | **22-08** | **22-12** | 5-00 | цотн. |
| 282 | Гродна-Унеча | 16-14 | **22-08** | **22-12** | 11-54 | па няцотн. |
| 35 | Масква-Беласток | 10-03 | **22-10** | **22-15** | 3-32* | акрамя суб. |
| 650 | Гродна-Гомель | 19-19 | **1-42** | **1-48** | 8-48 | цотн. |

***ЗАЎВАГІ:*** *)—указаны час для ГРОДНА; **)—указаны час для Вільнюса.

# "...І быў у лапці абуты"

Заканчэнне.
Пачатак у № 21.

*Пра тое, як лютавалі, здзекваліся над людзьмі ў 30-я гады сталінскія апрычнікі, знішчалі іх па надуманых абвінавачваннях, усім цяпер вядома. Вынішчэнне свайго народу,– а ці быў ён для сталіністаў сваім?– набыло такі шырокі размах, што яшчэ і цяпер даследчыкі таго часу ніяк не могуць дакладна падлічыць, колькі соцень тысяч людзей на Беларусі пацярпела ад генацыду, было расстраляна, закатавана ў турмах, саслана ў Сібір, Казахстан.*

Асабліва жорсткія нягоды ў тыя змрочныя гады прыпалі на сялянства. Адразу, калі на ўсходніх землях Беларусі усталявалася Савецкая ўлада, у вёсках пачалі запісваць у кулакі ўсіх тых, хто меў які-небудзь набытак у гаспадарцы: раскулачвалі, судзілі і высылалі. Праз колькі часу такая ж бяда напаткала і сялян Заходняй Беларусі.

Адгрымела Вялікая Айчынная вайна. Сяляне Маладзечаншчыны пачалі мірна жыць і працаваць. Яны ўжо думалі, што даваенны берыеўскі генацыд, раскулачванні мінулі і ніколі не вернуцца. І памыліліся– уціск нібы набраў другое дыханне і ўспыхнуў з новай сілаю. Зноў людзей пачалі хапаць і саджаць у турмы, ссылаць у Сібір.

Якія толькі недарэчныя абвінавачванні ні інкрымінаваліся ў пасляваенныя гады супраць сялян Маладзечаншчыны раённым народным судом! Тут спухаліся справы аб сабатажы, нявыплаце сельгаспадатку, дэзерцірства са школ ФЗН, невыкананні планаў па песанарыхтоўцы. Пагартаеш некалькі такіх судовых спраў і дзіву даешся бязглуздзіцы абвінавачванняў тагачаснай феміды.

...Шасцідзесяцігадовага Козела А. П., селяніна з вёскі Селеўцы Хоўхлаўскага сельсавета, абвінавацілі ў тым, што ён не выканаў план лесанарыхтовак, не вывез на сваім кані з дзялянкі на лесанарыхтоўчы пункт 60 кубаметраў лесу. Як ні даказваў падследны народным суддзям, што ён даўно ўжо не мае ў гаспадарцы каня, бо прадаў яго, каб выплаціць дзяржаве падаткі, не дапамагло– адправілі старога чалавека ў сібірскі лагер на тры гады "выконваць" лесанарыхтоўчыя планы. Да таго ж, яшчэ канфіскавалі маёмасць, каб пакінуць галоднымі яго дзяцей.

Ну, а калі б А. П. Козел не прадаў тады каня, выканаў бы на ім даведзены план лесанарыхтовак і, такім чынам, выплаціў бы дзяржаве падаткі і нядоімкі? І ў гэтым выпадку ён не мінуў бы турмы. Толькі быў бы асуджаны не на тры, а на дзесяць гадоў турэмнага зняволення з канфіскацыяй маёмасці, як гэта здарылася з селянінам І. І. Сянько з вёскі Задворцы гэтага ж сельсавета. Самым галоўным аргументам віноўнасці падсуднага для суддзяў таго часу пры разглядзе спраў нядоімшчыкаў сельгаспадатку было: быў ці не быў падсудны кулаком? А каб ім быць, варта было мець у гаспадарцы сячкарню або сеялку, каня, барану і плуг. Гэтага хапала, каб запісаць селяніна ў кулакі і накруціць яму на судзе тэрмін зняволення на ўсю катушку- 10 гадоў. А калі такога "багацця" у гаспадарцы падсуднага няма? Дык у абвінавачваемым заключэнні яго дапішуць, як гэта зрабілі, калі судзілі нядоімшчыка Гайковіча Ч. Ю., "пераканаўча" даводзячы, што сям'я падсуднага "адносіцца да кулацкіх таму, што яна з'яўляецца кулацкай". І не трэба ніякіх доказаў! Ну як не паверыш такому "пераканаўчаму" доказу народнага суддзі! І верылі, і судзілі... Той жа Ч. Ю. Гайковіч быў запісаны ў банду кулакоў-міраедаў і асуджаны на тры гады пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

Вядома, што тыя гаспадаркі, якіх адносілі да кулацкіх, абкладаліся такімі звышмагчымымі падаткамі, што падаткаплацельшчыкам пе па сіле было з імі разлічыцца. Калі ж яны не маглі гэтага зрабіць, дык аўтаматычна траплялі на лаву падсудных. У 1948 годзе, напрыклад, гаспадарку Харашэвіча М. М. абклалі падаткам ў 8892 рублі, а выплаціць ён змог толькі 2936 рублёў. Неўзабаве ён трапіў у спіс злосных неплацельшчыкаў і нядоімшчкаў, а заадно і на лаву падсудных– дзесяць гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

У верасні 1949 года падаў заяву ў калгас імя Малянкова і жыхар вёскі Малая Боркаўшчына Лебедзеўскага сельсавета Станкевіч І. І.. А на другі дзень прадаў жарабятка, якое хоць і стаяла ў стайні гаспадара, але ўжо лічылася калгаснай уласнасцю. Пасадзілі яго, як зламысніка і калгаснага злодзея, на тры гады. На гэты раз без канфіскацыі маёмасці, бо яна ўжо лічылася калгаснай. У пратаколе затрымання падсуднага ёсць вопіс яго асабістых рэчаў: "апрануты ў галіфэ і абуты ў лапці".

Старэйшае пакаленне сялян яшчэ добра памятае не толькі ваўкаватых фінагентаў, упаўнаважаных, якія гойсалі па вёсках і збіралі падаткі, апе і тых, хто прыязджаў туды вербаваць калгасную моладзь у школы ФЗН. Вынікі вярбовак часта былі марнымі, бо вясковыя юнакі аніяк не хацелі ехаць у гэтыя школы, а калі хто і паспытаў на чужыне чорнага "фабзайкаўскага" хлеба, дык з першых дзён марыў уцячы дамоў у родную вёску. І ўцякалі. І тады, каб прыбраць да рук завербаваных, назаўсёды адарваць ад роднай зямлі, улады дадумаліся забіраць іх у ФЗН праз ваенкаматы, мабілізоўваць нібыта. Цяпер паспрабуй уцячы– зробяць дэзерцірам Чырвонай Арміі, хоць той ці іншы юнак не служыў у войску, а асвойваў у той "фабзайкаўскай" вучэльні прафесію павальшчыка лесу ці шахцёра.

Фалей Іван, юнак з вёскі Груздава таксама быў мабілізаваны ваенкаматам у тую школу. Правучыўся там шэсць месяцаў, прыехаў дамоў і ў свой час не паспеў з'явіцца на месца вучобы. Неўзабаве ён быў арыштаваны і асуджаны на тры гады, як дэзерцір Чырвонага войска.

Шмат у філіяле Мінскага абласнога архіва судовых спраў за "каласкі", за ўтойванне халасцяцкіх падаткаў. "Бугаёўшчыну" збіралі праз суды нават з тых адзінокіх людзей, хто па гадах мог бы на цяперашні час лічыцца пенсіянерам.

Зараз, у час неразбярыхі і інфляцыі, часта даводзіцца ад некаторых людзей пажылога ўзросту– найбольш ад вайсковых пенсіянераў, якія ў тыя ўжо далёкія ад нас пасляваенныя гады жылі пры добрых грашах,– чуць такое: "Давялі краіну! Сталіна б сюды! Пры ім паліцы магазінаў не пуставалі! І ўсё можна было купіць за капейкі! Сталін кожны год змяншаў цэны!"

Але ніколі толькі не пачуеш такога ад старога вяскоўца-калгасніка, які цяпер дажывае свой век у вёсцы, бо ён на сваёй скуры зведаў "сталінскі рай". Нарабаваныя, задарма забраныя ў той час з яго гаспадаркі сельгаспастаўкі адпраўлялі ў гарады і там прадавалі па сходных цэнах, бо дзяржаве ўвесь гэты харч нічога не каштаваў– ён быў дармавы.

***Мікола КАПЫЛОВІЧ.***

